Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**№44 (604) 3 лістапада 2011 года.**

Кошт свабодны.

**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**





**Ёсць што паказаць і паглядзець у Глыбокім.**
**На здымку:** настаўнік гісторыі Лужаснянскай школы-інтэрната-гімназіі для здольных і таленавітых дзяцей Віцебскай вобласці, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі ВДУ імя П.Машэрава, кандыдат гістарычных навук Мікалай Півавар (у цэнтры) расказвае віцебскім экскурсантам аб калоне ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай ад 3 траўня 1791 г.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Пастаўскі раён

# Памяць пілотаў ушануюць

■ Кастусь Александровіч

**Ужо некалькі дзесяцігоддзяў у неба над Паставамі рэгулярна ўздымаліся вінтакрылыя машыны і дагэтуль не было ніякіх авіяцыйных здарэнняў.**

Аднак днямі восеньскім вечарам паблізу літоўскай граніцы ля вёскі Вілейты раптоўна ўпаў і загарэўся новы пагранічны верталёт вытворчасці Францыі. Усіх гараджан узрушыла, што загінулі пяцёра маладых людзей. На цырымонію развітання з лётчыкамі-пагранічнікамі ў Дом культуры прыйшлі тысячы людзей. Мясцовае кіраўніцтва і камандаванне часці аказала неабходную маральную і матэрыяльную дапамогу родным загінуўшых. Адначасова па ўзгадненні з камандаваннем пагранкамітэта Рэспублікі Беларусь было вырашана ўшанаваць памяць загінуўшага экіпажа ў складзе падпалкоўніка Ігара Скварцова і маёра Андрэя Пякарскага. На месцы падзення з-за тэхнічных няспраўнасцей іх машыны паўстане хрысціянскі крыж. Паблізу пераходу на беларускай-літоўскай граніцы ўстановяць гранітны абеліск з імёнамі загінуўшых пры выкананні службовага абавязку афіцэраў. У раёне ўжо адкрылі спецыяльны дабрачынны банкаўскі рахунак для збору ахвяраванняў. Акрамя гэтага, пры ўездзе ў райцэнтр паўстане на пастаменце сапраўдны баявы верталёт МІ-8, які будзе яшчэ адным крылатым сімвалам горада- сведчаннем таго, што на пастаўскай зямлі дастойна служылі і служаць Айчыне сотні авіятараў.

## Віцебская вобласць

# Адных прапаноў мала

■ Станіслаў Раманчук

**Даволі прадстаўнічым аказаўся чарговы міжнародны інвестыцыйны бізнес-форум, які праходзіў на працягу двух дзён у Віцебску напрыканцы кастрычніка.**

З розных куткоў вобласці на ім для больш чым трохсот дзелавых людзей і прадстаўнікоў дыпмісій 4-х краін свету было прапанавана больш за 150 інвестыцыйных і інавацыйных прапаноў. Аднак у выніку падчас мерапрыемства было падпісана няшмат дакументаў, усяго толькі 9 пагадненняў і пратаколаў аб намерах з беларускімі і замежнымі інвестарамі. Сярод самых буйных дакументаў – гатоўнасць кампаніі "Турал і К" з Азербайджана ўкласці патрэбныя сродкі на пабудову завода па вытворчасці гіпсакартону ў Полацкім раёне. На жаль, асноўная маса замежных інвестараў пакуль больш толькі прыглядаецца да праектаў з-за зацягвання тэрмінаў вырашэння зямельных і іншых пытанняў па рэалізацыі здзелак. Сустракаюцца і даволі сумніўныя партнёры, як гэта здарылася ў суседнім Ушацкім раёне, дзе яшчэ летась заключылі пагадненне з інвестарам з Расіі аб завяршэнні будаўніцтва мясцовага санаторыя "Вечалле". На справе доўгі час расійскі бізнесмен чакаў зніжэння кошту недабудаванага памяшкання. Але яго спадзяванні аб зніжэнні сумы кошту даўгабуда не спраўдзіліся, і гэты партнёр проста знік, перастаў выходзіць на сувязь з раённым кіраўніцтвам. Цяпер зноў прыходзіцца шукаць замежных інвестараў, хто б зацікавіўся гэтым аб'ектам, дзе ёсць радонавыя крыніцы і гаючая мінеральная вада.

## Докшыцкі раён

# Падыход гаспадарскі, комплексны

■ Чэслаў Якубовіч

**Пакуль у нашай краіне прыярытэт у сельскай гаспадарцы трывала аддадзены калгаснай форме працы на зямлі, няпроста прыходзіцца выжываць нешматлікім айчынным фермерам.**

Аднак у кожным раёне знойдзецца сярод іх па некалькі сапраўдных земляробаў, альбо "кулакоў" па камуністычнай ідэалогіі. Вось і ў Докшыцкім раёне сваю нішу ўпэўнена заняў паляк Юзаф Касцюк. Ён жыве на беларускай зямлі і працуе ў Бярэзінскім краі ўжо 15 гадоў так, як прынята на яго радзіме. Цяпер гэты гаспадар апрацоўвае 175 гектараў, мае ў сваёй гаспадарцы 12 пастаянных работнікаў. У сезон збору гародніны: бульбы, капусты, морквы, бурачкоў – наймае на работы яшчэ да ста памочнікаў. Для пражывання іх сёлета купіў памяшканне былой школы ў вёсцы Барсукі і пачаў рамонт будучай агрaсядзібы-інтэрната. Магчыма, з'явіцца тут і нейкі аб'ект прыдарожнага сервісу на ажыўленай аўтатрасе. А яшчэ ў пана фермера пасаджаны свой вялікі сад, даўно займаецца ён вырошчваннем і ягад маліны і клубніц. Гэтыя прысмакі далі добры ўраджай, на іх быў вялікі попыт. У гаспадарцы ў гэтым годзе добра ўрадзілі таксама таматы, балгарскі перац і нават кавуны ў закрытым грунце. Фермерская гаспадарка "Лайкполагра" пана Юзафа развіваецца: паўстала невялікая свінаферма, сабралі ладны ўраджай збожжа на пасеяных 75 гектарах плошчаў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 03.11.11 | | | | пятн. 04.11.11 | | | | сб. 05.11.11 | | | | нядз. 06.11.11 | | | | пн.07.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +4 | +3 | +9 | +3 | 0 | 0 | +8 | +2 | +1 | +2 | +7 | +4 | +1 | -2 | +3 | -3 | -6 | -5 | +1 |
| Ціск, мм | 753 | 752 | 752 | 751 | 751 | 752 | 752 | 753 | 754 | 755 | 756 | 757 | 759 | 760 | 761 | 762 | 763 | 763 | 763 |
| Вільготнасць, % | 90 | 96 | 70 | 92 | 95 | 100 | 74 | 92 | 94 | 99 | 76 | 90 | 84 | 84 | 50 | 70 | 73 | 77 | 40 |
| Вецер м/сек | Ю-З 2 | Ю 1 | Ю-З 2 | Ю 1 | Ю-В 2 | Ю-В 2 | Ю-В 1 | Ю-В 3 | Ю-В 3 | В 4 | Ю-В 4 | В 4 | В 6 | В 7 | В 6 | В 5 | Ю-В 4 | В 4 | Ю-В 2 |
| | | 08:17 | 17:28 | | | 08:19 | 17:26 | | | 08:21 | 17:24 | | | 08:23 | 17:22 | | 08:25 | 17:20 | |
| | | 14:45 | - | | | 15:01 | 01:11 | | | 15:15 | 02:22 | | | 15:29 | 03:33 | | 15:43 | 04:42 | |

# Лічба нумара

**3100** – у столькі разоў, па разліках эканамістаў, абясцэнілася ў Беларусі апошнім часам нацыянальная валюта да долара. Толькі напрыканцы кастрычніка ў краіне завяршылася дзіўная эпапея з множнасцю курсаў, калі рашыліся нарэшце ў другі раз з пачатку года дэвальвіраваць рубль РБ у быццам, як гаварылі нядаўна, " моцнай і квітнеючай" краіне, якую працягваюць будаваць. Як ні горка, а наш родненькі рубельчык "аслабеў" сёлета" на 189 %, хоць пачаў сваё існаванне афіцыйна ў далёкім 1992 годзе.

У выніку ў верасні сярэднямесячная налічаная зарплата беларусаў склала 2,260 млн. рублёў, альбо ў пераліку 260 USD. Сёння гэта найгоршы паказчык у Еўропе, і многія лічаць такую статыстыку завышанай, паколькі трэба адкінуць сумы ўплачваемых людзьмі падаткаў. Але відавочна, што жыццёвы ўзровень большасці значна ўпаў, хоць частка ўрада пераконвае, што крызісу няма. Як заявіў віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік, цяпер урадоўцы заняты вывадам краіны з так званага "праблемнага перыяду" і забеспячэннем выхаду на ўстойлівае развіццё ў 2012 годзе.

Фармулёўкі сапраўды дзіўныя, і толькі яшчэ адзін віцэ-прэм'ер Сяргей Румас сказаў праўду-матку: " гіперінфляцыя – гэта сорам для ўрада". Дарэчы, на будучы год нам спрагназавалі рост цэн у сярэднім на 20 %, што таксама не радуе. На самай справе сітуацыя ў беларускай эканоміцы яшчэ горшая, чым раней уяўлялася. Яе маглі б лягчэй для насельніцтва разрулiць, калі б кіраўніцтва краіны рашылася на дэвальвацыю рубля ў пачатку года. У такім выпадку, адзначаюць спецыялісты, курс долара мог бы стабілізавацца на ўзроўні 4000 руб./ USD.

Аднак маем тое, што ёсць. Па выніках першых адзіных таргоў на біржы, ён зафіксаваўся на адзнацы 8680 рублёў, а за 1 еўра трэба выкласці 11900 рублёў. Што будзе далей? Тут ужо далёкія ад эканамічных працэсаў простыя людзі адчуваюць, што жыць заўтра стане яшчэ цяжэй. Аслабленне нацвалюты прывядзе да павышэння кошту закупляемых энерганосьбітаў, што прывядзе да істотнага павышэння тарыфаў на камунальныя паслугі ў ацяпляльны перыяд, да новага росту цэн на прамысловыя і харчовыя тавары, паслугі.

Нутром адчулі нядобрае і аўтамабілісты, на многіх запраўках назіраліся вялізныя чэргі. Людзі імкнуліся як мага болей заправіцца да непазбежнага павышэння цэн на паліва. У сталічных аптэках найбольш адукаваныя мінчане пачалі скупляць імпартныя медпрэпараты, бо і яны павінны вырасці ў цане. Нават у Нацбанку не выключаюць, што да канца года рост цэн можа дасягнуць 100 %. Адным са сведчанняў эканамічнага крызісу стала друкаванне новай банкноты 200 тыс. рублёў і прапанова акругліць цэны да 50 рублёў.

Ды і не хаваюць ужо, што беларусам прыйдзецца ад многага адмовіцца, да чаго яны раней прывыклі. У прыватнасці, у банк ужо не пойдзеш за крэдытам, бо асобныя стаўкі там дасягнулі 60 % гадавых. Існуючы ў краіне крызіс нанёс моцны ўдар па жыллёвым будаўніцтве: бліжэйшыя год-два яно будзе весціся зусім сціпла, хоць нядаўна гэта абвяшчалася нібыта лакаматывам росту беларускай эканомікі. Як аказалася, гэты наш айчынны паравоз, відавочна, зайшоў у нейкі тупік і патрабуецца разварот да рэальных рэформ, паступовай стабілізацыі курсаўтварэння і правядзення жорсткай грашова-крэдытнай палітыкі.

У рэальным жыцці гэта прывядзе да нялёгкага жыцця шэрагу суб'ектаў гаспадарання і яшчэ моцна ўдарыць па многіх людзях. Бягучыя эканамічныя праблемы, па ўсяму бачна, стануць вырашацца за кошт страўнікаў насельніцтва, якое вымушана будзе ў асноўным працаваць "на ўнітаз" і адмовіцца ад многага ў жыцці. Падлічана, што рэальныя страты даходаў беларусаў з-за зніжэння заробкаў дасягаюць каля 1 млрд. долараў штомесяц. Па выніках года чакаюцца страты даходаў насельніцтва на суму каля 10 мільярдаў – на столькі ўсе мы сталі бяднейшымі з-за падзення ўзроўню жыцця.

І гэта сумна пры працуючай эканоміцы, адсутнасці вайны ці значных стыхійных катастрофаў.

## Дзень за днём

**Беларусь пасля выхаду на адзіны курс устанавіла новы сумны сусветны "рэкорд" абясцэньвання нацыянальнай валюты на 189,3 %. Такога абвалу не назіралася цэлае дзесяцігоддзе. Апошняя эканоміка савецкага тыпу церпіць крах і акрэслілася пагроза дэфолту. Нацбанк РБ у 10-ты раз сёлета павысіў стаўку рэфінансавання да 35 % гадавых, а пачалося ўсё з 10,5 %. Грамадзянскую супольнасць устрывожылі жорсткія прапановы змен у законы ажыццяўлення грамадска-палітычнай дзейнасці. Не пазней за верасень 2012 года ў краіне адбудуцца чарговыя парламенцкія выбары. Да канца года ўрад запланаваў адмяніць рэгуляванне цэн на бульбу і іншую сельскагаспадарчую прадукцыю.**

# Важнейшыя навіны свету

**Лівія.** Былы кіраўнік краіны палкоўнік Муамар Кадафі быў забіты сіламі Нацыянальнай пераходнай рады, яго пахавалі ў невядомым месцы, каб не было паломніцтва.

**Турцыя.** Новы магутны землятрус магнітудай 7,2 балы забраў жыцці каля тысячы чалавек, разбурыў шмат жылля, школьны інтэрнат, яго моц чулі Арменія, Грузія, Іран.

**Ізраіль.** Краіна абмяняла нарэшце свайго палоннага капрала-танкіста Гілата Шаліта адразу на 1027 палестынскіх тэрарыстаў самай агрэсіўнай групоўкі ХАМАС.

**Польшча.** Новы польскі ўрад упершыню зноў даручылі сфарміраваць да 6 снежня дзеючаму прэм'еру Дональду Туску, які паабяцаў пакінуць на пасадах толькі 6 міністраў.

**Іспанія.** Адна з апошніх узброеных сепаратысцкіх груповак Еўропы – баская ЭТА – заявіла аб поўным спыненні баявых дзеянняў і пераходзе да палітычнай барацьбы.

**Украіна.** У адносінах Юліі Цімашэнкі распачалі новую крымінальную справу, што толькі павысіла яе палітычны рэйтынг, Еўрасаюз паставіў жорсткі ўльтыматум з-за экс-прэм'ера.

**Расія.** Прычынай гібелі самалёта з хакейнай камандай "Лакаматыў" (Яраслаўль) спецыялісты пасля серыі эксперыментаў назвалі грубую памылку аднаго з пілотаў.

**Германія.** Эксперты Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця спрагназавалі далейшае ўзмацненне крызісу ў РБ з-за грубых пралікаў яе ўрада ў грашова-крэдытнай палітыцы.

**Літва.** Генеральны пракурор Дарус Валіс раніцай на слізкай дарозе ў Вільнюсе трапіў у ДТЗ, параніў жанчыну-пешахода і адразу падаў у адстаўку пасля гэтага інцыдэнту.

**Польшча.** Польскае МЗС заявіла ўладам Беларусі, што кіраўніцтва РП не ставіць пад сумненне непарушнасць польска-беларускай граніцы, не трэба безадказных выказванняў.

**Харватыя.** Краіна завяршыла перамовы аб уступленні ў 2013 годзе ў Еўрасаюз, такі дакумент падпішуць у снежні, статус краін-кандыдатаў далі Македоніі і Чарнагорыі.

**Расія.** Крэмль запатрабаваў ад рэгіянальных чыноўнікаў забяспечыць на выбарах 4 снежня ў Дзярждуму РФ для правячай партыі "Адзіная Расія" падтрымку да 65 % галасоў.

**Чэхія.** Гарадскі суд Прагі адмовіўся выдаваць Беларусі палітуцекача, экс-кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча, прадстаўнікоў афіцыйнага Мінска ў судзе не было.

**Украіна.** Парламент краіны перадумаў і прыняў новую пастанову аб пераходзе на зімовы час, з 30 кастрычніка розніца ў часе паміж Мінскам і Кіевам стала складаць 1 гадзіну.

**Англія.** З канца лістапада да студзеня, папярэдзіў галоўны метэаролаг Сусветнай службы клімату Рычард Джэймс, на ўсходзе Еўропы, у Прыбалтыцы, чакаецца халодная сухая зіма.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Беларусь не будзе змяняць выбарчае заканадаўства да парламенцкіх выбараў 2012 года, як гэтага патрабуе ад нас Захад.

**Астравец.** Літва падала скаргу ў МАГАТЭ з нагоды рашэння будаўніцтва АЭС, ратыфікацыю дагавора з Расіяй аб гэтым парламент РБ правёў у закрытым рэжыме.

**Гомель.** Адна з буйнейшых у свеце транснацыянальных карпарацый, англа-галандскі холдынг Unilewer набыў мясцовую фабрыку марожанага, дзе занята 189 чалавек.

**Валожын.** Райаддзел міліцыі распачаў крымінальную справу супраць 71-гадовага жыхара вёскі Чартавічы, які падчас сваркі двума ўдарамі замка па галаве забіў 83-гадовую жонку.

**Мінск.** Да пачатку наступнага года старшыня Нацбанка РБ Надзея Ермакова паабяцала беларусам курс $ на ўзроўні 7-8 тыс. рублёў і што сёлета не будзе дэнамінацыі грошай.

**Брэст.** На пасяджэнні аблвыканкама кіраўнік вобласці К. Сумар запатрабаваў вызваліць пасады старшыням Ганцавіцкага і Столінскага райвыканкамаў за "поўны правал" работы.

**Пінск.** Былога гендырэктара холдынга "Пінскдрэў" Ларана Арыніча аб'явілі ў вышук па справе леташняга выбуху, ён раней без перашкод з'ехаў быццам у Польшчу на лячэнне.

**Мінск.** З офіса сталічнай фірмы па гандлю каштоўнымі металамі злодзеі вынеслі 3 наўтбукі і 100-кілаграмовы сейф з золатам, старадаўнімі манетамі і рабочымі дакументамі.

**Гродна.** Прадавец магазіна "Гарызонт" 30 хвілін праследавала маладую зладзейку да прыбыцця нарада міліцыі, факт крадзяжу электрапраса пацвердзіла і відэакамера крамы.

**Мачулішчы.** Адзін з буйнейшых у РБ агракамбінатаў "Мачулішчы" (87 тыс. га зямлі) даручылі ўзначаліць былому кіраўніку Гродзенскай вобласці Уладзіміру Саўчанку.

**Брэст.** Абласны суд пакінуў без змен прыгавор – 8 гадоў турмы былому 40-гадоваму ўчастковаму Іванаўскага РАУС, які згвалтаваў п'яную 16-гадовую дзяўчыну.

**Мінск.** Пракуратура Цэнтральнага раёна пачала праверку вельмі жорсткіх выказванняў лідара групы "Ляпіс Трубяцкі" Сяргея Міхалка ў адрас кіраўніка РБ і існуючай сістэмы.

**Лагойск.** На тэрыторыі раёна і яшчэ ў 5-ці на Міншчыне да канца года забаранілі продаж у магазінах пладовых він – "чарніла", у Слуцку такая забарона дзейнічае з чэрвеня.

**Шклоў.** У райцэнтры і суседніх Горках спынілі з-за недахопу грошай пачатае летась будаўніцтва Лядовых палацаў, у хакей там рэгулярна гуляюць не болей за 20-25 чалавек.

**Гродна.** Паблізу горада з-за няўважлівасці дарослых самаробны дэльтаплан разбіў галаву 14-гадовай дзяўчыне, у ДТЗ разбіліся 5 студэнтаў, загінула 21-гадовая піцікурсніца.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У абласным цэнтры з-за крызісу будаўнічай галіны сарвалася здача ў эксплуатацыю больш дзесятка шматпавярховак, што выклікала скаргі дольшчыкаў.

**Бешанковічы.** Падчас палявання ў лясным масіве на дзікіх кабаноў 24-гадовы малады паляўнічы забіў замест дзіка 34-гадовага жыхара Віцебска, які пакінуў сваю пазіцыю.

**Талачын.** Кансервавы завод ужо прадаў спажыўцам больш за 8 тыс. тон бульбы па цане 800-1000 руб./кг, у сховішчах ёсць яшчэ 24 тыс. тон, асноўная рэалізацыя пачнецца зімой.

**Віцебск.** Для ўсіх гарадоў і раёнаў вобласці на 2012 год аблсавет дэпутатаў увёў адзіную норму продажу паліва – брыкета 3,5 т і дроў 4,9 кубаметраў па фіксаваных цэнах.

**Браслаў.** Паблізу ад латвійскай граніцы пагранічнікі знайшлі тайнік з цыгарэтамі, схаваных у 31 кораб, тавар перададзены дзяржаве.

**Расоны.** У абноўленым летась да абласных "Дажынак" фізкультурна-аздараўленчым комплексе адкрыўся плавальны басейн, пачалі працаваць групы аквааэробікі.

**Віцебск.** Першай у Беларусі сярод рэгіянальных студый тэлерадыёкампанія "Віцебск" пачала трансляцыі ў лічбавым фармаце, апаратуру на 0,5 млрд. руб. зарабіла сама.

**Верхнядзвінск.** Жыхары вёскі Залессе за ўласныя сродкі добраўпарадкавалі закінутыя могілкі, абнеслі іх плотам 180 метраў пры дапамозе работнікаў ААТ "Нафтан".

**Шуміліна.** Праверка аблсельгасхарча выявіла ў 5 гаспадарках раёна моцныя пашкоджанні насеннага і фуражнага зерня рознымі грызунамі, факты яго замочвання і прарастання.

**Полацк.** На хутары каля вёскі Якаўцы выращылі ўзвесці рэзідэнцыю Лешага-Лесуна, які стане турыстычным брэндам раёна, як знакаміты Зюзя Паазерскі на Пастаўшчыне.

**Дуброўна.** Пасярод ночы супрацоўнікам МНС прыйшлося эвакуіраваць жыхароў 8-кватэрнага гарэўшага жылога дома, з іх з атручэннем дымам у ЦРБ трапіла пенсіянерка.

**Бешанковічы.** У райцэнтры спынілі ўзвядзенне 60-кватэрнага жылога дома з-за адсутнасці грошай, лепшыя будаўнікі з'ехалі на працу ў РФ, дзе заробкі значна большыя.

**Ушачы.** Амаль 5 гадзін выратавальнікі МНС у вёсцы Цётча вызвалялі мужчыну з калодзежа, засыпанага зямлёй на 10-метровай глыбіні. Вясковец трапіў у бальніцу.

**Сянно.** Пры пракладцы газапровада ў райцэнтры знайшлі адразу некалькі каменных артэфактаў – гранітныя крыж і 2 вялікія надмагільныя пліты з гербамі шляхты.

**Полацк.** Ля вёскі Ахотніца раніцай адбылася жудасная аварыя: лоб у лоб сутыкнуліся два "Жыгулі" 1-й і 6-й мадэляў, у выніку ДТЗ загінулі 2 жанчыны, 3 пасажыры будуць жыць.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Павышаныя кошты на звадкаваны газ



■ БЕЛТА

**Міністэрства эканомікі Беларусі прыняло рашэнне пра павелічэнне адпускных коштаў арганізацый-вытворцаў на звадкаваны газ для камунальна-побытавага спажывання і аўтамабільнага транспарту на 15%, лімітавых раздробных коштаў на звадкаваны газ для запраўкі аўтатранспарту праз АГЗС на 10% і кошты на звадкаваны газ для запраўкі ў малалітражныя балоны (1 л, 5 л, 27 л), якія рэалізуюцца насельніцтву, на 10%.**

Гэтыя рашэнні ўтрымоўваюцца ў пастановах Мінэканомікі ад 25 кастрычніка 2011 года №172 "Пра ўнясенне зменаў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 4 красавіка 2011 года №52", №173 "Пра ўсталяванне лімітавых раздробных коштаў на звадкаваны газ пры рэалізацыі на аўтамабільных газазаправачных станцыях", №174 "Пра кошт на газ звадкаваны, які рэалізуецца насельніцтву ў балонах".

Вышэйназваныя пастановы Мінэканомікі ўступаюць у сілу з 30 кастрычніка 2011 года пасля іх афіцыйнага апублікавання ў газеце "Рэспубліка".

"Звадкаваныя газы з'яўляюцца прадуктам перапрацоўкі нафты, галоўным чынам імпартуемай у Беларусь. У сувязі з ростам кошту перапрацоўваемай нафты, што звязана са зменай курсу беларускага рубля ў адносінах да даляра ЗША, рэалізацыя звадкаваных газаў на ўнутраны рынак з'яўляецца стратнай", - растлумачылі раней у міністэрстве чыннік падвышэння коштаў.

# Velcom павышае кошт паслуг сувязі на 15%

■ Аляксей Арэшка, БелаПАН

**Аператар мабільнай сувязі ЗП "Вэлком" (гандлёвыя маркі Velcom і "Привет") аб'явіў пра павелічэнне кошту паслуг сувязі на 15% з 30 лістапада.**

Як паведамляе прэсслужба кампаніі, тарыфы на выклікі і дадатковыя паслугі будуць акругленыя да аднаго рубля паводле правілаў арыфметычнага акруглення, тарыфы на разавыя ўклады і спецыяльныя паслугі — да 50 рублёў.

Памеры штомесячных плацяжоў па растэрмінову за абсталяванне ў межах раней заключаных дагавораў застаюцца нязменнымі.

З новымі цэнамі на паслугі сувязі можна будзе азнаёміцца з 30 лістапада на сайце www.velcom.by, даведацца па тэлефонах даведачнаінфармацыйнай службы: для набору з мабільнага тэлефона — 411 (званок у сетцы velcom бясплатны) і 150 (званок платны), з гарадскога — (017) 330 30 30.

Гэта будзе ўжо трэцяе павышэнне тарыфаў velcom за год, пасля таго як з 24 чэрвеня яны былі павялічаныя на 10% і 16 кастрычніка — на 7%.

**Іосіф Каралевіч:**

# «Народу трэба тлумачыць: усё, што танна, – не заўсёды добра!»

**Госць нашай газеты – Іосіф Іванавіч Каралевіч, дырэктар філіяла «Альфа-Калор-Глыбокае», прыйшоў падзяліцца навіной. Ён упэўнены, што яго інфармацыя будзе карыснай і цікавай для усіх жыхароў нашага краю. Даём яму слова.**

■ **Уладзімір Скрабатун**

**І.К.:** Наша фірма “Альфа-Калор-Глыбокае” арганізавалася 3 кастрычніка як філіял на базе “Альфа-Калор-Віцебск”. Наш філіял будзе займацца продажам газавых катлоў насельніцтву і арганізацыям, мантажом, сэрвісным абслугоўваннем, гарантыйным і паслягарантыйным абслугоўваннем.

Для развіцця сэрвіснага абслугоўвання і павелічэння колькасці продажу газавых катлоў “Альфа-Калор” такія філіялы спачатку былі створаныя ў абласных цэнтрах. Потым у гарадах абласцей: у Віцебскай вобласці – Глыбокае, у Брэсцкай – Пінск, у Мінскай – Слуцк, на чарзе стварэння філіялаў стаяць: у Магілёўскай вобласці – Бабруйск, у Гомельскай – Мазыр, у Гродзенскай – Слонім.

“Альфа-Калор-Глыбокае” знаходзіцца ў непасрэдным падпарадкаванні сумеснага беларуска-італьянскага ТАА “Альфа-Калор-Мінск”, у якога маецца ўласны завод па вытворчасці газавых катлоў з усімі адпаведнымі тэхнічнымі атрыбутамі: цалкам заключаныя дамовы з Белпаліўзбытам, заключаны дамовы і атрыманыя сертыфікаты ад Праматамнагляду. Мы вырабляем для прамысловых арганізацый і прадпрыемстваў, а таксама для прыватных прадпрыемстваў, якія маюць вялікія вытворчыя плошчы, каскадныя кацельні. Гэта значыць, праектуем і займаемся іх мантажом. У прыватнасці, у гэтым годзе падобная кацельня была ўведзеная ў Пастаўскім райвыканкаме. Гэта звычайны модуль: 2,40х4,20, які складаецца з 4 газавых катлоў, цалкам абвязаных, выводзіцца пульт пажарнай бяспекі на Пастаўскі РАНС (выратавальнікі), такі ж пульт выводзіцца і на дзяжурны пункт райвыканкама. У выпадку якой-небудзь аварыі аўтаматыка цалкам адключае кацёл, дзяжурны тэлефануе нам на сэрвісную службу, выязджае сэрвіс-дэсант – і на працягу двух гадзінаў устараняе ўсе непаладкі.

А цяпер разгледзім сітуацыю з прыватнымі арганізацыямі, прадпрымальнікамі, з якімі адбываюцца не вельмі прыемныя рэчы. Сёння, напрыклад, рынак наваднілі розныя “Арыстоны”, “Вестаны”, “Юнкерсы”, “Весманы”, і ўсе гэтыя катлы, збольшага, – ліпавыя. Увозіцца, напрыклад, з Германіі адзін законны кацёл з усімі адпаведнымі сертыфікатамі, а пад гэтую марку ўвозіцца яшчэ тысяча катлоў, хаця б і з той самай Германіі. У дадатак, пад гэтую марку, у падвалах саматужна выпрабляюцца газавыя катлы, і ў нашай Беларусі таксама. Каб не быць галаслоўным, скажу, што такія звесткі нам паступаюць з Браслаўскага раёна, вельмі шмат звестак з Расонскага раёна… Гэтыя раёны знаходзяцца ўпрытык да дзяржаўнай мяжы з Латвіяй, Літвой і Расіяй. Ну вось, людзі ідуць да нас, ледзьве не нахабна патрабуюць, каб мы рабілі сэрвіснае абслугоўванне. А мы гэтыя катлы не бяром да сэрвіснага абслугоўвання. Чаму? Таму, што кошты вельмі рэзка змяняюцца: былі тыя катлы, напрыклад, “Арыстоны” танней, чым нашыя “Альфа-Калор” даляраў на 50, і людзі бралі не ў нас. Але ж ў нас – сэрвіснае абслугоўванне, аднак людзі гэтага не разумелі і не бралі нашыя катлы. І што атрымалася? Цяпер тыя індывідуальныя прадпрымальнікі – збеглі! Чаму? Бо ў іх ужо гэты кацёл сёння каштуе далараў на 150 даражэй, чым у нас, і прадпрымальнікам ўжо нявыгадна гэтым займацца, бо катлы цяпер бяруць у нас. Таму людзі, якія раней набывалі газавыя катлы ў прадпрымальнікаў, засталіся сёння без сэрвіснага абслугоўвання.

Таму народу трэба тлумачыць, што ўсё, што танна, – не заўсёды добра!

У нас свой завод, прытым “Альфа-Калор” уваходзіць у групу кампаній з васьмі заводаў, у гэтым пераліку – завод па вытворчасці дайльных залаў у Мнюце (Глыбоцкі р-н), у Капылі пабудаваны завод па выпуску паўсфераў па італьянскай тэхналогіі, з якіх потым узводзяцца кароўнікі на 1200 галоў з усёй аўтаматызацыяй і коштам у тры разы меншым, чым у беларускіх вытворцаў. Усё на імпартнай аснове! Плюс два заводы па вытворчасці сельгастэхнікі: гноераскідальнікаў, сеялак, веялак… для усяго комплекса сельскагаспадарчых работ. Усё прадаецца за беларускія рублі. Сам “Альфа-Калор” з’яўляецца рэзідэнтам Свабоднай эканамічнай зоны “Мінск”, карыстаецца 15-працэнтнымі прэферэнцыямі, 50% акцый належыць беларускай дзяржаве, 50% – італьянскай фірме. Вось тут і ёсць уся квінтэсэнцыя: мы не можам знікнуць, мы не можам распасца, нягледзячы на абставіны – выгадна нам гэта альбо не. Мы працуем на план. У дадатак да ўсяго завод выпрабляе па італьянскай тэхналогіі каксіяльныя сістэмы на дымавыдаленне, займаецца выпускам труб вэнтыляцыі і каналізацыі і г.д. з напыленнем камп’ютарным спосабам. І ў выніку ў Глыбокім створаны філіял на сем раёнаў, у далейшым мы будзем яшчэ больш пашырацца. На сённяшні дзень створана і хутка будзе задзейнічана кругласутачнае дзяжурства сэрвіс-дэсантаў ва ўсіх сямі раёнах. І любыя непаладкі з газавымі катламі будуць ліквідаваны на працягу двух гадзінаў. Падкрэсліваю – мясцовымі спецыялістамі, якія будуць у кожным з сямі раёнаў. Калі ў іх ўзнікнуць нейкія праблемы на месцах, то будуць тэлефанаваць у Глыбокае ў наш галоўны сэрвісны цэнтр. Мы дапаможам кансультацыяй мясцовым спецыялістам альбо ад нас выедзе аварыйная брыгада спецыялістаў.



**Іосіф Іванавіч Каралевіч, дырэктар філіяла «Альфа-Калор-Глыбокае», тэл.: 8 (044) 555-62-33.**

**У.С.: Вы можаце назваць адрас “Альфа-Калор-Глыбокае”?**

**І.К.:** Адрас – чыгуначны вакзал у Глыбокім. Там мы арэндуем памяшканне для офіса. Пачынаем афіцыйна працаваць з 1 лістапада, хаця, згодна загаду, наш філіял ужо дзейнічае з 3 кастрычніка. Цяпер мы вырашаем арганізацыйныя пытанні: выраб пячатак, адкрыццё разліковага рахунку, якія якраз і будзе задзейнічаны з 1 лістапада.

**У.С.: Якія перспектывы ў “Альфа-Калор-Глыбокае” на бліжэйшы час?**

**І.К.:** Я меў гутарку з начальнікам аддзела адукацыі Глыбоцкага раёна… Ёсць установы, якія падпарадкаваныя раённаму аддзелу адукацыі: школы і дзіцячыя сады. Непадалёк ад гэтых аб’ектаў праходзяць газаправоды высокага, сярэдняга і нізкага ціску, то мэтазгодна тут выкарыстоўваць каскадныя кацельні. На сённяшні дзень асноўнай крыніцай цяпла у будынках, якія належаць адукацыі, з’яўляюцца электракацельні. Яны “пажыраюць” шмат электраэнергіі, што эканамічна нявыгадна. Танней – газавыя каскадныя кацельні. Ну, а тыя кацельні, якія працуюць на цвёрдым паліве – дровы, вугаль, торфабрыкет? Дровы – няякасныя, вугаль – дарагі і няякасны, торфабрыкет – вельмі дарагі! У дадатак – попел, траспартныя расходы плюс самае страшнае – чалавечы фактар: набіраюць качагарамі людзей, а яны усе, за малым выключэннем, п’янтосы. У што маем: выбухі ў кацельнях, замарожанне сістэмаў ацяплення – страшэнны урон! Скаргі!

Таму мы і прапануем арганізацыям, установам, прыватным прадпрыемствам, жыхарам свае ўмовы, прапановы, пакеты дакументаў: што вырабляем, якія паслугі аказваем. Мы працуем толькі пры наяўнасці праектна-каштарыснай дакументацыі. Калі патрэбная праектна-каштарысная дакументацыя дзяржаўным ці прыватным установам – у нас ёсць свае праекціроўшчыкі. Мы маем усе віды ліцэнзіяў: на праектаванне, вытворчасць, мантаж, пусканаладачныя работы. Маем дасканалы штат.

У хуткім часе мы асвоім выпуск ралетных кацельняў на цвёрдым паліве і менавіта нашага завода. Ідзе праектая распрацоўка, якая набліжаецца да канца, – ацяпленне ад сонечных радыятараў, г.зн. будуць усталёўвацца адмысловыя ўлавіцелі цяпла ад сонца на даху будынка: з даха будзе ісці зарадка акумулятараў – ад акумулятараў будуць працаваць батарэі ацяплення. Усе гэта – напрацоўкі заходніх тэхналогіяў, усё ідзе з Італіі. Наш генеральны дырэктар мае дамову (кантракт) з самой галаўной італьянскай фірмай.

**У.С.: Вы сказалі, што «Альфа-Калор-Глыбокае» будзе дзейнічаць на тэрыторыі сямі раёнаў, назавіце іх.**

**І.К.:** Я намаляваў агульны фон, тую сітуацыю, паводле якой паўстала неабходнасць стварэння ў нашым горадзе філіяла “Альфа-Калор-Глыбокае”, які сваю дзейнасць распаўсюджвае на сем раёнаў нашага краю: Глыбоцкі, Ушацкі, Мёрскі, Шаркоўскі, Пастаўскі, Докшыцкі, Браслаўскі. Аднак калі нехта захоча атрымаць дапамогу нашай глыбоцкай фірмы з іншых раёнаў (Ашмянскага, Мядзельскага, Верхнядзвінскага…), тэлефануйце, дапаможам.

**У.С.: Дзе ў Глыбокім можна азнаёміцца прадукцыяй вашай фірмы?**

**І.К.:** Магу назваць адрас і нумар тэлефона нашага магазіна: будынак Каапнарыхтоўпрама (вул. Леніна,131), тэл.: 8 (044) 550-55-76 (Тацццяна, загадчык магазіна). Магу ў дадатак назваць начальніка сэрвіснай службы: Валерый Анатольевіч Шарабайка, тэл.: 8(044) 722-24-28.

Мы бяром цалкам у арэнду другі паверх глыбоцкага чыгуначнага вакзала, дзе будзе наш сэрвісны цэнтр, там будуць і склады, і наш магазін.

У нас – непачаты край работы. У мінулым месяцы мы ўсталявалі адзін наш кацёл ў рэдакцыі пастаўскай раённай газеты, другі кацёл – у пастаўскай друкарні. Закончаны мантаж у Браслаўскім РайГазе, дзе будзе газавае ацяпленне адміністрацыйнага будынка, гаражоў, дапаможных будынкаў. Мы вядзем вялікія работы па мантажы каскадных і звычайных катлоў на прадпрыемстве “Маяк” (Браслаўскі р-н).

Для прыкладу скажу: у Віцебскай зоне ўжо ўсталявана больш за 40 каскадных кацельняў. Там цалкам наладжаная сэрвісная служба. Такі раён, як Талачынскі, цалкам завязаны на катлах “Альфа-Калор”. Мы значна адстаём ад Віцебскай зоны! Але ў нас ужо ёсць добры пачатак: ва Ушацкім РайГазе цалкам прынялі нашую прапанову, і мы там працуем з імі на субпадрадзе. Усе кааператывы там бяруць толькі нашыя катлы “Альфа-Калор”. Любому РайГазу выгадна, каб была адна марка газавага катла, то нам, аднак, незразумелая пазіцыя Глыбоцкага РайГаза, які пускае сюды ўсіх.

Ну вось, у аднаго майго знаёмага стаіць кацёл “Юнкерс”. Бабах! – плата згарэла”. 500 баксаў плаці! Прыязджае па выкліку камерсант, які ставіў кацёл. Паглядзеў і кажа: “Вы няправільна эксплуатавалі!”.

– Як няправільна!– кажа мой знаёмы. Я ж ніводнай кнопкі не ціскаў! Можам выклікаць міліцыю, якае знойдзе толькі адбіткі пальцаў тваіх хлопцаў, якія кацёл ставілі!

Упіраўся, упіраўся… Плату ўсё ж паставіў. Праз паўтара месяца і тая плата накрылася. Плата, аказваецца, баіцца перападу напругі. Прыйшлося ставіць ужо за свае грошы.

**У.С.:** Я нават прадбачу, што нам пойдуць тэлефанаванні ад розных прыватных фірмаў, якія, наадварот, будуць ганіць вашыя катлы «Альфа-Калор». І гэта – натуральна! Канкурэнцыя! Але самае галоўнае, што насельніцтва атрымала з Вашых вуснаў альтэрнатыўную інфармацыю, якую можна прыняць да ведама.

**Дзякуй за цікавую гутарку!**



**Хутка такія ўлавіцелі сонечнай энергіі з'явяцца і на дахах глыбоцкіх дамоў.**

Розгалас на тэму «Фермерства. Праблемы і перспектывы»

# Які фермер накорміць краіну

**Алесь Гай,**
*г. Глыбокае.*

«Фермерства. Праблемы і перспектывы» – пад такім загалоўкам быў надрукаваны артыкул Кастуся Шыталя ў "Вольным Глыбокім" за №38. Тэма вельмі актуальная і хвалюе яна ўсіх нас. Ці змогуць фермерскія гаспадаркі накарміць беларусаў? Што трымае на зямлі беларускіх фермераў? Якая будучыня нашых аграгарадкоў і фермерскіх гаспадарак? Аўтар гэтага артыкула мае свой погляд на гэтую тэму.

Падчас распаду Савецкага Саюзу многія пайшлі ў фермеры. Тады дзяржава давала крэдыт практычна без працэнтаў. Вельмі многія жыхары раёна і горада кінуліся ў фермерства.

Вось і мой добры знаёмы ўзяў крэдыт у дзяржавы. Купіў хутар каля Шунеўцаў. Узяў у арэнду зямлю. Дзяржава пабудавала дарогу да хутара, падвяла электрычнасць. Побач сельгасхімія – дармавое ўгнаенне. Вось гэты фермер пасеяў зернявыя. Даў у дастатку ўгнаенняў. Вырас нядрэнны ўраджай. За два гады разлічыўся з крэдытам. Частку пагасіла дзяржава. Потым прадаў сельгастэхніку, купленую за дзяржаўны крэдыт, плюнуў на гэтую зямлю. Купіў мікрааўтобус і пачаў займацца перавозам пасажыраў у Мінск і Віцебск. Як назваць гэтага фермера? Ці накормяць такія фермеры краіну?

На маю думку, зямлю патрэбна даваць людзям адукаваным, якія працавалі на зямлі. Павінен быць конкурс на вядзенне фермерскай гаспадаркі. Не параўнаць вышэй указанага фермера з фермерам Аляксандрам Мяжэніным з Глыбоччыны. Чалавек адукаваны кіруе гаспадаркай, ведае зямлю як сваіх пяць пальцаў. Такі фермер накорміць краіну. На маю думку, фермер ці кіраўнік дзяржаўнай гаспадаркі – гэта Божы дар. І тых, і другіх вельмі яшчэ мала.

У той час, калі адбіралі зямлю і стваралі калгасы, у людзей адбілі ахвоту не толькі працаваць, а нават жыць.

Прывяду прыклад. Раённая газета "Веснік Глыбоччыны" №76 друкуе рэйд начальніка інспекцыі дзяржтэхнагляду Уладзіміра Галяка, які наведаў некалькі гаспадарак раёна, як пастаўлена збожжаўборачная тэхніка на захаванне. Вось радкі з раённай газеты. "ААТ "Каралі". Калі караценька, то да ачысткі камбайнаў, да пастаноўкі іх на захаванне ў таварыстве не прыступалі. Закончылі ўборку зернявых – прыгналі тэхніку на машынны двор і стаіць яна неачышчаная, забытая: зерне прарасло, траўка зелянее. Побач з камбайнам – новая машына для раскідвання ўгнаенняў, якую гаспадаркі ўзялі ў лізінг. Гэтую машыну ператварылі ў сметнік, чаго толькі мы тут не ўбачылі. Непадалёк – сеялка, якой сеялі кукурузу і яна неачышчаная. Так стаіць з мая." Цяжка ў гэта паверыць. Дзяржава патраціла велізарныя



сродкі – і ўсё дарэмна.

Прывяду другі прыклад. Хоць гэта не мая справа, але пасля такіх звестак з раёнкі я таксама 27 верасня наведаў адну з гаспадарак, якая непадалёк ад горада. Было гэта каля 10 гадзін раніцы. Заходжу на тэхдвор. Каля аднаго з камбайнаў ходзіць мужчына з малатком і невялікім ломікам. Стукне раз малатком, раз ломікам па камбайне. Перадаю размову даслоўна. "Ты працуеш на гэтым камбайне, і бачна, што ён яшчэ новы. – Другі сезон як атрымаў. - А чаго так не шкадуеш? Фарба адлятае і дэфармуецца тэхніка. – Мне два гады да пенсіі, на два сезоны хопіць."

**І ўсё-такі ў шчырых размовах Клімянок аднойчы сказаў, што няма будучыні ў калгасаў.**

Аб чым можна было размаўляць з гэтым механізатарам? Дык у чым жа прычына, паважаныя чытач? Гэта не сваё, а дзяржаўнае. Я не ратую, што ва ўсіх гаспадарках такія вось механізатары, але іх вельмі шмат. Я не ратую, што ва ўсіх гаспадарках так захоўваецца тэхніка. Але ў многіх так захоўваецца. У фермера гэтага не было б ніколі. Фермер даражыць кожнай капейкай. Якая напрошваецца высnова? Дык якая будучыня фермерства і дзяржаўных гаспадарак? Калі б пасля вайны не было б павальнай калектывізацыі, калі б гэтыя мільярды рублёў, што ўкладваліся ў дзяржаўныя калгасы, саўгасы былі дадзены фермерам – зусім іншае становішча было б у нас у сельскай галіне. У развітых краінах 3% працуе ў сельскай гаспадарцы. У нас прыкладна 33% занятыя ў сельскай галіне. З іх працуе толькі 3%, а кіруе не менш 30% , і яшчэ як кіруюць. Прыходзіць новы кіраўнік у гаспадарку. З чаго пачынае? Думаеце, ён клапоціцца пра надой малака ці як павысіць ураджайнасць. Адразу адналяе сабе транспарт. УАЗ на Джып. Хату ў тры паверхі за кошт гаспадаркі. Папрацаваўшы нейкі год, даюць другую пасаду. Не такі вялікі наш раён, каб не ведалі такіх прыкладаў. На маю думку, будучыня за фермерскімі гаспадаркамі.



Прывяду яшчэ адзін прыклад. Я асабіста вельмі добра быў знаёмы з Героем Сацыялістычнай працы, былым старшынёй калгаса імя Чапаева М.А.Клімянком. Меркаванні яго заслугоўваюць і зараз увагі. У 1953 годзе па сваёй ініцыятыве М.А.Клімянок, загадчык сельгасаддзела Глыбоцкага райкама партыі, узначальвае калгас імя Чапаева. Прывяду некалькі прыкладаў з яго жыцця. Неяк пайшоў у вёску Хоцькі па хатах па падпісцы на дзяржаўны займ. Зайшоў да аднаго калгасніка. Пагаварылі на гэту тэму, а ён і кажа: "Таварыш старшыня, я падпішуся на займ на ўсю гадавую зарплату". Доўга разважаў, ідучы назад М.А.Клімянок. Чаму ён так сказаў. І толькі потым зразумеў, што гадавая зарплата практычна 0. На другі дзень М.А.Клімянок робіць калгасны сход і заяўляе перад усімі калгаснікамі, што ён адмаўляецца ад зарплаты (гэта 1250 рублёў) і пераходзіць на працадні. Да чаго ўсё гэта? А да таго, ці знойдзецца зараз кіраўнік, які адмовіўся б ад чаго-небудзь. Аднойчы пры размове М.А.Клімянок сказаў, што калі ты бываеш у вёсцы і пытаешся: "Дзе тут пражывае старшыня", ведай, старшыня сюды прыехаў працаваць. А калі ты бачыш у два-тры паверхі дом старшыні, рабі сам высnову. Калі калгасу імя Чапаева прапанавалі купіць "Волгу", старшыня зрабіў калгасны сход. Прасіў згоды ў калгаснікаў. На гэтай машыне адвозілі хворых у бальніцу, цяжарных – у раддом, маладых – у сельсавет. Ці знойдзецца зараз такі кіраўнік? Калі М.А. Клімянок пайшоў на пенсію, ён адмовіўся ад пенсіі на карысць дзяржавы і дзесяць гадоў яшчэ адпрацаваў. У той час калгас імя Чапаева быў адным з лепшых гаспадарак раёна і вобласці. І ўсё-такі ў шчырых размовах Клімянок аднойчы сказаў, што няма будучыні ў калгасаў. Першае, у чым ён сумняваўся, – гэта адносіны да працы, па-другое, вельмі шкодзілі працаваць райкам, райвыканкам, райсельгасупраўкамы. Вызначалі тэрміны сяўбы, час уборкі, што сеяць, як сеяць, кіравалі ўсё, а адказваў старшыня. Цяжка падлічыць, колькі ў нас кіраўнікоў на вырашчаны 1 кг зерня, 1 кг мяса. І вельмі цяжка ўсяго гэтага пазбавіцца. На маю думку, яшчэ не ў хуткім часе фермерская гаспадарка зойме сваё пачэснае месца і вельмі многае залежыць, хто і які гаспадар на гэтай зямлі. Калі гаспадар ад Бога – я за яго.

**Памятаецца, у канцы 1990-х мы шмат ездзілі па Глыбоччыне. У большасці выпадкаў гэтыя паездкі былі так ці інакш звязаныя з чарговымі выбарамі: ці то прэзідэнцкімі, ці то парламенцкімі. Збіралі подпісы, раздавалі агітацыйныя ўлёткі, размаўлялі з людзьмі.**

**Як сталася, шмат хто (а можа, і пераважная большасць) на рэферэндуме 1996 года свядома прагаласаваў супраць перадачы зямлі ў прыватныя рукі. І матывавалі яны гэта ўсё банальна проста: «А дзе мы будзем браць салярку, угнаенні, камбікорм?...»**

**І людзі нутром разумелі: калі будзе прыватная ўласнасць на зямлю, то ў прыватніка не ўкрадзеш. Украсці можна ў калгасе. Вось і датуем мы ўсе сельскую гаспадарку сваім коштам, купляючы тавар па завышаным кошце ў краме, у дадатак бюджэтнікі ездзяць у калгас «валанцёрамі» па зборы ўраджаю.**

**Гэты матэрыял, які мы прапануем увазе чытачоў, як нельга добра кладзецца ва ўнісон з артыкулам Алеся Гая, які напісаны вышэй.**

**Во дажыліся! Купляем бульбу у палякаў і літоўцаў, у якіх няма калгасаў...**

*Ул. Скрабатун*

# Бульбачкі Беларусь купляе за мяжой больш, чым бананаў

**Да нас завозяць бульбу з Польшчы, Літвы і нават Марока. Чаму наша маладая бульбачка даражэйшая за імпартную?**

Некалькі тыдняў назад на нарадзе ва ўрадзе з нагоды імпартазамяшчэння міністр эканомікі Мікалай Снапкоў агучыў цікавую лічбу.

– За 8 месяцаў у Беларусь завезена бульбы свежаастуджанай на 12 млн. даляраў, - панаракаў міністр.

Атрымліваецца, што на кожнага з нас (уключаючы немаўлятаў і старых) завезлі бульбы на 1,3 даляра.

*«Камсамольская праўда ў Беларусі»* вырашыла разабрацца, што ж у нас адбываецца з нашым нацыянальным прадуктам і чаму мы пачалі яго завозіць з-за мяжы.

На кілаграм прывазных бананаў даводзіцца па два кіло імпартнай бульбачкі

Для пачатку больш падрабязна паглядзелі бульбяную статыстыку. Сталася, што калі лічыць завезеную бульбачку не ў грашах, а ў тонах, то другога хлеба Беларусь закупіла за мяжой нават больш, чым бананаў! І гэта прытым, што бананы ў нас не растуць зусім. Але са студзеня па жнівень гэтай заморскай садавіны мы імпартавалі каля 27,5 тысячы тон (у грашах амаль на 22 млн. «зялёных»). А бульбачкі - 44,4 тысячы тоны.



Завозім мы бульбу з 16 краін. Вядома, часцей за ўсё купляем другі хлеб у найбліжэйшых суседзяў. Так, амаль усю бульбачку мы вязём з Польшчы (амаль 43 тысячы тон). Каля 580 тон - з Літвы. Але ёсць сярод пастаўшчыкоў Нідэрланды, Чэхія, Македонія, Італія, Грэцыя і далёкая Марока. Нават з Расіі мы прывезлі 6,3 тоны бульбы. Дарэчы, геаграфія па пастаўшчыках бананаў больш сціплая - усяго 8 краін (Эквадор, Коста-Рыка, Панама, Гандурас і інш.).

Колькасць замежнай бульбачкі ўсё прыбывае і прыбывае. Толькі за восем месяцаў 2011 года мы закупілі яе ўжо ў два разы больш, чым за ўвесь мінулы год. Так, у 2010-м было ўвезена 21,6 тысячы тон, а цяпер, як гаварылася вышэй, 44,4 тысячы тон.

У 2009 годзе імпартнай бульбы было і таго менш: усяго 1,8 тысячы тон. Атрымліваецца, што амаль за два гады імпарт бульбачкі ўзрос у 25 разоў!

